№ 19(142)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Лістапад 2012 г.

# БЫВШИЙ ПЕРВЫЙ СЕКРЕТАРЬ БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙКОМА КПБ НЕ ХОЧЕТ ИДТИ НА ПЕНСИЮ

***Белгосстрах Могилёвской области возглавил пенсионер, бывший депутат Палаты представителей и бывший первый секретарь Белыничского райкома коммунистической партии Беларуси Анатолий Глаз. Как уже писала «Паходня», наши доблестные чиновники согласны покинуть свои «хлебные» места только ногами вперёд, а так готовы «гореть на работе» до конца.***

Жителям Белыничского района, да и всей Могилёвщины, новый директор филиала Белгосстраха по Могилевской области хорошо известен. Тем не менее, напомним читателям "Паходни" основные вехи биографии Анатолия Тихоновича.

Родился Анатолий Глаз 8 ноября 1951 года в деревне Калатичи Глусского района Могилевской области. Образование высшее — окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию, Минскую высшую партийную школу; ученый агроном-экономист, кандидат экономических наук, доцент.

Трудовую деятельность начал в должности главного агронома колхоза имени Чапаева Глусского района Могилевской области. Работал вторым и первым секретарем Глусского райкома комсомола, вторым и первым секретарем Могилевского обкома комсомола, председателем исполкома Бобруйского районного Совета депутатов, первым секретарем Белыничского райкома КПБ Могилевской области, заместителем генерального директора по кадрам и быту, заместителем генерального директора по коммерческим вопросам народного объединения «Бобруйскмебель», председателем Бобруйского районного исполнительного комитета, заместителем председателя Могилевского областного исполнительного комитета.

Является председателем Могилевского областного отделения Республиканского общественного объединения «Белорусский детский фонд».

Награжден орденом Франциска Скорины, медалями «За трудовую доблесть», «За ратную доблесть», орденом Святого Благоверного цесаревича Димитрия.

До нынешнего назначения — заместитель председателя Постоянной комиссии Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь по правам человека, национальным отношениям и средствам массовой информации.

Ну а сейчас Анатолий Тихонович, заработав на руководящих должностях хорошую пенсию, будет получать ещё и ну очень хорошую зарплату. Могу напомнить уважаемым читателям, што заработная плата в страховых организациях и банковском секторе уверенно лидирует среди зарплат отраслей народного хозяйства нашей страны. Короче, получается как в анедокте: Александр Григорьевич рассказал о том, что чиновников в стране много и их надо сокращать, а количество пенсионеров на руководящих должностях постоянно увеличивается. Кстати, это хорошо можно увидеть и по нашему родному Белыничскому району. Как я уже писал, молодые вынуждены уезжать на заработки в Россию и Европу, ну а чиновники-пенсионеры обеспечив себе достойную старость, обеспечивают "светлое будущее", которое обещали нам при коммунистах, своим собственным деткам, внукам и правнукам…



***Анатолий Глаз***

Что ж, пожелаем здоровья и успехов на новой высокооплачивоемой работе Анатолию Тихоновичу, свою семью он уже застраховал от всяческих потрясений на долгие годы вперёд. Ну а те люди, которым он на протяжении многих лет рассказывал, как счастливо они будут жить в скором будущем, как-нибудь выживут. Это ничего, что цены растут бешеными темпами и пенсии не хватает на самое необходимое, картошка в этом году уродила, свекла не очень дорогая, да и голодать полезно, учёные доказали. Ну а от несчастных случаев и внезапной смерти от голода возглавляемая Анатолием Глазом организация застрахует, только деньги заплатите…

***Сергей Семенович***

**Анекдот дня**

*- Когда в споре рождается истина?*
*- Когда в спор вступает начальник.*

# КОСТУСЕВ: ЛУКАШЕНКО ПОЙДЕТ НА ВСЕ, ЛИШЬ СПАСТИ СВОЙ РЕЖИМ И САМОГО СЕБЯ

“Ради спасения режима и самих себя Лукашенко пойдет на все: признает и Абхазию с Южной Осетией, а в перспективе – пойдет на передачу белорусских предприятий российскому бизнесу”.

Так оценивает бывший кандидат в президенты Григорий Костусев заявление Владимира Макея о возможности пересмотра позиции по признанию Абхазии и Южной Осетии.

- Москва загнала Лукашенко в угол, поэтому ему ничего иного не остается, как выполнять все требования Кремля. Сокращение поставок нефти из России привело к очередной волне экономического кризиса. Лукашенко в итоге сделался настолько податливым, что готов пойти на все – лишь бы остаться при власти, - уверен Григорий Костусев.

- Почему именно сейчас из союзного сундука Минск достал заплесневелую карту Абхазии и Южной Осетии?

- Кремль намерен выступить собирателем всех территорий бывшего Советского Союза под свое крыло. И



***Григорий Костусев***

начинает с Абхазии реализацию плана возрождения Российской империи.

Скорее всего, что Минск пойдет на признание Абхазии и Южной Осетии. В белорусской экономике – полный обвал, 2013 год – год максимальных выплат по кредитам. Поэтому Лукашенко и его окружение ищут выход из этого тупика. Ради спасения режима и самих себя Лукашенко пойдет на все: признает и Абхазию с Южной Осетией, а в перспективе – пойдет на передачу белорусских предприятий российскому бизнесу, - заявил Григорий Костусев.

***“Белорусский партизан”***

## В СЕНТЯБРЕ ЗАРПЛАТА ВЫРОСЛА ТОЛЬКО У БЮДЖЕТНИКОВ

Как сообщили в отделе статистики труда и зарплаты Главного статуправления Могилевской области, среднемесячная заработная плата работников области в сентябре 2012 г. составила 3775 тыс. рублей и уменьшилась по сравнению с августом 2012 г. на 0,3%, или на 11 тыс.рублей. В бюджетных организациях она – 3182 тыс. рублей и увеличилась по сравнению с августом на 7%, или на 208 тыс. рублей.

Самая высокая зарплата на Могилевщине была в прошлом месяце у работников, занятых транспортированием по трубопроводам (техническим обслуживанием трубопроводов Белтрансгаза) – 6443 тыс. рублей, в производстве резиновых и пластмассовых изделий – 5846 тыс., научными исследованиями и разработками – 5806 тыс. рублей.

Меньше других заработали в сентябре работники гостиниц и ресторанов – 2617 тыс. рублей, сельского хозяйства, охоты и предоставления услуг в этих сферах – 2888 тыс., деятельности по организации отдыха и развлечений, культуры и спорта – 2943 тыс. рублей.

## У МАГІЛЁЎСКІХ СУДАХ НЕДАПЛАЧВАЮЦЬ ЗА КАНТРАКТЫ

Тэхнічны персанал у складзе супрацоўнікаў канцылярыі, справаводаў і сакратароў судовых пасяджэнняў маюць адны з самых нізкіх зарплат у горадзе.

Гэта звязана з тым, што ім да гэтага часу недаплачваюць грошы за перавод на кантракты. Кантракты з імі заключылі, а даплачваць за гэта не збіраюцца. Тым часам, судовыя выканаўцы і суддзі такія даплаты маюць, паведамляе сайт «Наш Магілёў».

Гэта прыводзіць да пастаяннай цякучкі кадраў. Магілёўскія раённыя суды за апошні час страцілі дзесяткі спецыялістаў.

Дарэчы, сакратары суда і справаводы на рукі атрымліваюць зарпла-



ты каля 1,5 мільёна рублёў, сакратары судовых пасяджэнняў, загадчыкі канцылярыі і загадчыкі архіваў зарабляюць 1,65 мільёна рублёў.

Трэба адзначыць, што супрацоўнікі дадзеных дзяржаўных структур не маюць права ўваходзіць у прафсаюзныя арганізацыі і атрымліваецца, што абараняць іх правы папросту няма каму.

## БЕДНЫХ В БЕЛАРУСИ В ДВА РАЗА БОЛЬШЕ, ЧЕМ БОГАТЫХ

Более половины (61,1%) домашних хозяйств в стране оценивают свое материальное положение как среднее, 25,1% — несколько ниже среднего и 5,1% — несколько выше среднего.

Доля домашних хозяйств с высоким материальным положением составила 2,8%, с низким — 5,9%.

Как сообщили БелаПАН в пресс-службе Национального статистического комитета, таковы результаты выборочного обследования уровня благосостояния домашних хозяйств в 2012 году, в котором приняли участие 5,5 тыс. респондентов.

***БелаПАН***

# У БЯЛЫНІЦКАЙ МІЛІЦЫІ ВЯЛІКІ НЕКАМПЛЕКТ

***У Бялыніцкай міліцыі вялікі некамплект, міліцыянеры звальняюцца з-за нізкіх заробкаў. Пра гэта заявіў падчас сустрэчы з бацькамі на бацькоўскім сходзе ў Машчаніцкай сярэдняй школе 31 кастрычніка начальнік Бялыніцкага РАУС палкоўнік міліцыі Юрый Сіманаў.***

Юрый Сіманаў сказаў таксама, што асабліва нехапае ў Бялыніцкім РАУС участковых інспектароў міліцыі. Так, няма зараз уласнага ўчастковага і ў Машчаніцкім сельскім савеце, у якім пражывае даволі шмат людзей, яго абавязкі выконвае міліцыянер з суседняга ўчастка. Па словах начальніка Бялыніцкай міліцыі, ёсць спадзяванне, што ўласны ўчастковы ў Машчаніцы ўсё ж з'явіцца, але толькі праз некалькі месяцаў.

Палкоўнік Сіманаў адмовіўся даць канкрэтны адказ на пытанне бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча, колькі ж канкрэтна ў працэнтных адносінах складае некамплект міліцыянераў у Бялыніцкім РАУС, аднак прызнаў, што незанятых вакансій шмат і што міліцыянеры звальняюцца са службы ў сувязі з нізкімі заробкамі. Юрый Пятровіч выказаў спадзяванне, што гэта сітуацыя будзе ўрэгалявана нейкім чынам пасля нарады з удзелам кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі па пытаннях рэфармавання органаў унутраных спраў, якая павінна адбыцца 15 лістапада. Па словах Юрыя Сіманава, ён таксама прыме ўдзел у гэтай нарадзе.

Падчас гутаркі з бацькамі начальнік Бялыніцкага РАУС таксама распавёў аб зменах у адміністрацыйным заканадаўстве у адносінах да непаўналетніх і адказнасці за іх правапарушэнні бацькоў. Палкоўнік Сіманаў заклікаў бацькоў больш увагі надаваць сваім непаўналетнім дзецям, каб пасля недавялось прыцягваць іх да адміністрацыйнай адказнасці. “Заробкі ў нас малыя, а штрафы вялікія”, - канстатаваў Юрый Сіманаў.

Начальнік міліцыі адзначыў, што апошнім часам павялічылась колькасць крадзяжоў, якія ўчыняюць непаўналетнія. Асноўная колькасць крадзяжоў – гэта крадзёж прадуктаў харчавання, прычым гэтыя крадзяжы ўчыняюць і дзеці з прыстойных сем'яў.




Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч адзначае, што той факт, што ў бялыніцкай міліцыі існуе праблема з кадрамі, даўно ўжо не з'яўляецца сакрэтам.

“Бялынічане даўно ведаюць, што ў Бялыніцкім РАУС існуе вялікае праблема з кадрамі, міліцыянеры пастаянна звальняюцца з-за нізкіх заробкаў і незразумелых патрабаванняў. Калі раней служыць у міліцыі лічылась прэстыжным, то зараз там пастаянны некамплект. Для прыкладу, толькі ў нас у Машчаніцы за апошні час змянілась два ўчастковых, людзі звальняюцца і зараз на вялікі сельсавет наогул няма ўчастковага інспектара. Некамплект кадраў існаваў і ў мясцовым райаддзеле МНС, але там праблему вырашылі за кошт таго, што набралі ў штат маладых людзей, якія замест паўтары гадоў службы ў войску пайшлі служыць у МНС на тры гады. Альтэрнатыўнай службы ў нас няма, таму маладыя людзі ахвотна ідуць служыць у МНС, дзе за гэта плоцяць грошы і яны знаходзяцца дома, а не займаюцца невядома чым у беларускай арміі.

Нездзіўляе і тое, што дзеці крадуць, прычым менавіта прадукты харчавання. Неглядзячы на ўсе казкі пра стабільнасць і “квітнеючую Беларусь” , узровень жыцця ў сельскіх рэгіёнах апошнім часам значна панізаўся і ў многіх сем'ях, асабліва недобранадзейных, сапраўды дзецям не заўсёды ёсць што паесці”, - выказаў меркаванне Барыс Вырвіч.

***Вікторыя Бялова***

## ЧЕМ НАС КОРМЯТ?

Комитет госконтроля продолжает публиковать списки объектов торговли, в которых выявлена реализация продуктов с истекшими сроками годности (хранения). В сентябре в такой список попали 62 объекта 18 районов области и городов Могилев и Бобруйск, из них 11 — повторно.

Нарушители (работники прилавка, организации) привлечены к ответственности.

В Белыничском районе в число нарушителей попали магазин Белыничского райпо (дер. Ланьково); магазин «Ласточка» Белыничского райпо (г.п. Белыничи, ул. Калинина, 4); кафе «Ласточка» Белыничского райпо (г.п. Белыничи, ул. Калинина, 4); магазин «Славянка» ОАО «Новая Друть» (г.п. Белыничи, ул. Калинина, 28).

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# МАГІЛЁЎСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ: МОЛАДЗЬ БАЩЦА, ВЕТЭРАНЫ АДЫХОДЗЯЦЬ

***28 кастрычніка да крыжа памяці, усталяванага на месцы масавых расстрэлаў, прыйшлі ўсяго чацьвёра актывістаў.***

Дзьве публікацыі на мінулым тыдні пра падзеі ў Магілёве апынуліся сярод найбольш чытаных на сайце беларускай «Свабоды». Дыскусію ў камэнтарах выклікаў матэрыял пра адзіную вучаніцу адзінай беларускамоўнай клясы абласнога цэнтру Ялінку Салаўёву. Тое ж адбылося і з публікацыяй, прысьвечанай таму, як у Магілёве 28 кастрычніка мясцовая апазыцыя адзначыла Дзяды. Да крыжа памяці, усталяванага на месцы масавых расстрэлаў, прыйшлі чацьвёра актывістаў.

Што адбываецца ў асяроддзі магілёўскай апазыцыі? Ці сапраўды яна забываецца на знакавыя даты гісторыі і выклікі часу?

Першае сваё пытаньне я адрасаваў маці Ялінкі Салаўёвай — спадарыні Надзеі. Адна рэч найбольш уразіла ў камэнтарах да публікацыі пра навучаньне ейнай дачкі: акрамя захапленьня ўчынкам бацькоў, былі й кпіны — што, маўляў, вы сваю дачку робіце закладніцай уласных перекананьняў?

«Гэта нас абурыла. Супярэчнасьцяў у гэтым няма. Жаданьне дзіцяці такое ж самае, як і ў бацькоў. Я не лічу, што яна нейкая непаўнавартасная, што мы сапсуём ёй жыцьцё. Яна жыве ў нармальным грамадстве. Ялінка навучаецца ў нармальнай школе з усімі дзецьмі. У яе ёсьць настаўніца, ёсьць пакой. Ёсьць забесьпячэньне — кніжкі, праграма распрацаваная. У яе ёсьць нават больш. У яе ёсьць кампутар у клясе. Мультымэдыйныя матэрыялы, якія мы распрацоўвалі і якія ТБШ зь Менску дасылала», — зазначае Надзея Салаўёва.

У водгуках гучала і тое, што мясцовая апазыцыя, перадусім нацыянальна арыентаваная, магла б дапамагчы сям'і Салаўёвых знайсьці дачцэ аднаклясьнікаў. Дык ці дапамагае, пытаюся ў спадарыня Надзеі:




«Я думаю, што магла б. Прынамсі патэлефанаваць. Падыйсьці — запытацца, што трэба, чым дапамагчы. Такія людзі былі, але гэта былі адзінкі. ТБМ быў, але яны так на пачатку навучальнага году цікавяцца звычайна. А так усе ініцыятывы, ідэі наконт разьвіцьця клясы паходзяць ад нас. Усё, што рабілі — рабілі мы. Салідарнасьці няма. Што тут хаваць? Я кажу як ёсьць».

Больш за два гады таму магілёўская грамадзкасьць дамаглася адкрыцьця беларускамоўнай клясы. Аддзел адукацыі гарвыканкаму тады ставіў пытаньне рубам: «Будуць вучні — будзе кляса». З тых, хто патрабаваў, аддалі дзіця вучыцца па беларуску толькі Салаўёвы. За прамінулы час імпэт у пашырэньні беларускамоўнага школьніцтва ў Магілёве пакрысе аціх. Чаму? Былы настаўнік матэматыкі і сябра ТБМ, цяпер пэнсіянэр Міхась Булавацкі зазначае:

«Ён не аціх, а прытаіўся. Людзі чакаюць нейкіх зручных варункаў. Каб людзі былі зацікаўленыя аддаваць дзіця ў беларускамоўную клясу — яны павінны мець нейкую выгоду з гэтага. Я вось чакаю, пакуль Ялінка дарасьце да пятай клясы. Тады я зайнуся гэтай праблемай. Я прапаную школе зрабіць беларускамоўную клясу з матэматычнай спэцыялізацыяй і абвясьціць набор у пятую беларускамоўную клясу. Я ўпэўнены, што там ужо будзе не адна Ялінка, а будзе сама меней дзясятак чалавек».

У 2002 годзе Міхась Булавацкі, як ён кажа, амаль дамогся адкрыцьця ў Магілёве адразу сёмай беларускамоўнай клясы з матэматычнай спэцыялізацыяй. Было чацьвёра ахвотных вучыцца ў ёй. Аднак, паводле настаўніка, адкрыцьця не адбылося, бо чыноўнікі не знайшлі фінансаваньня для клясы.

Пытаньне пра імпэт у пашырэньні беларускамоўнага школьніцтва ў Магілёве я задаў і мясцоваму палітыку, сябру партыі БНФ Віталю Макаранку:

«Што аціх, тое відавочна. Не было дасягнута, нягледзячы на ўсе высілкі, заплянаванага выніку. Мінімальна прыкметнага. Людзі, якія былі заангажаваныя ў гэтую дзейнасьць, зразумелі, што без спрыяньня дзяржавы нічога ня будзе насамрэч. Таму тыя, хто гэтую ідэю рухаў, цяпер на такім раздарожжы. Відавочна, што трэба шукаць нейкія новыя падыходы, новыя варыянты дзейнасьці».

*(Пачатак. Заканч. на стар.2)*

# МАГІЛЁЎСКАЯ АПАЗЫЦЫЯ: МОЛАДЗЬ БАІЦЦА, ВЕТЭРАНЫ АДЫХОДЗЯЦЬ

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

А чым апазыцыйная грамадзкасьць, спадар Макаранка, магла б дапамагчы такім, як сям'я Салаўёвых?

«Тут пытаньне не да апазыцыйнай грамадзкасьці. Што апазыцыйная грамадзкасьць? Маё дзіця жыве ў іншай краіне. Што я магу? Нічога. Каб у мяне дзіця было тут, тады б можна было мне задаваць пытаньне: „Чаму ты не аддаеш дзіця ў беларускамоўную клясу?“ Гэта пытаньне да тых, хто мае дзяцей і выбірае нешта іншае, акрамя беларускамоўнай клясы».




28 кастрычніка на Дзяды ў Магілёве да крыжа памяці, што на праспэкце Дзімітрава, прыйшлі чацьвёра апазыцыянэраў. Да іх на месца масавых расстрэлаў часоў бальшавіцкага і сталінскага тэрору прыходзілі яшчэ людзі — гэта было відаць па не замерзлых на непагадзі кветках. Звычайна да крыжа на Дзяды прыходзяць сваякі расстраляных. Яны не чакаюць апазыцыйнай грамады. Сёлета памінальную акцыю арганізаваў сябра партыі БНФ Сяргей Гіркін. Ён адзначае:

«Калі мы зладзілі гэтую акцыю, то шмат хто пачаў казаць, што я ня меў права сам гэтага рабіць — што гэтае сьвята павінна адзначацца пазьней. Хоць куды ўжо пазьней? Пра гэта наўпрост ніхто ня думаў, а спахапіліся, калі мы правялі акцыю. Чыста чалавечы досьвед паказвае, што мы можам зьбірацца паасобку, а цяпер, калі ў краіне такая сытуацыя палітычная — мы павінны быць усё ж такі разам».

Крыж па-над кар'ерам, дзе выявілі парэшткі расстраляных, усталявалі пры канцы васьмідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя. У першыя гады пасьля ўсталяваньня да гэтага сымбаля памяці зьбіраліся дзясяткі людзей. У апошнія гады — грамада зрэдку налічвала дзясятак чалавек. Дык няўжо сёлета магілёўская апазыцыя забылася на Дзяды?

Старшыня абласной структуры партыі БНФ Зьміцер Салаўёў: «Ніхто ні на што не забыўся. Кааліцыя дэмакратычных сіл разглядала гэтае пытаньне і вырашала праводзіць Дзяды менавіта ў дзень Дзядоў, 2 лістапада. Тое, што прыйшлі людзі да крыжа 28 лістапада — гэта іх прыватная ініцыятыва. Мы жывём самастойна і не азіраемся на Менск і самі вырашаем, калі што адзначаць».

Ці адзначыць Дзяды магілёўская апазыцыя 2 лістапада, невядома. Тым ня менш пытаньне застаецца — наколькі шматлюднай будзе грамада? На яго адказвае кааардынатар кааліцыі дэмакратычных сіл Юры Новікаў:

«Паводле досьведу мінулых гадоў гэтая акцыя ніколі шматлюднай не была. Прыходзілі ў асноўным людзі сьвядомыя. Тут, вядома, і наша недапрацоўка. Мы ніяк не прапагандуем гэтую дату. Сярод моладзі не працуем. Што зьвязана з гэтай датай, то апошнія некалькі гадоў праблемаў зь міліцыянтамі ў нас не было. Прыедуць яны, паглядзяць, але ніколі ня ўмешваліся ў нашу цырымонію».

Нешматлюднымі сталі і іншыя публічныя акцыі. Напрыклад, адзначэньне гадавіны Чарнобылю альбо прызнаньня магілёўцамі ўлады БНР. Летась да будынка абласнога музэю, дзе адбыўся ў 1918 годзе памятны сход магілёўцаў, не прыйшоў ніхто. Пяцігадовая традыцыя перарвалася. Аднаго з арганізатараў акцыі Зьмітра Салаўёва паставілі ў 2011 годзе за ўскладаньне кветак на прафіляктычны ўлік у КДБ.

Былі і іншыя мерапрыемствы, у якіх апазыцыйныя актывісты ўдзельнічалі, ня лішне азіраючыся на спэцслужбы. Напрыклад, зьбіралі подпісы за адбудову ратушы ў Магілёве. Альбо нядаўняе — збор сродкаў, каб выкупіць для музэю Магілёва два старадрукі, у тым ліку Статут Вялікага Княства Літоўскага. Абодвум мерапрыемствам спрыялі дзяржаўныя органы. Было і яшчэ адно. Група апазыцыянэраў выступіла супраць усталяваньня ў Магілёве бюста апошняга расейскага самадзержца Мікалая II. Гарвыканкам вымушаны быў адрэагаваць, і падарунак з Масквы схавалі ў музэі. Сярод тых, хто выступаў супраць бюста, быў Валадар Цурпанаў. Што адбываецца з апазыцыйным асяродкам? — пытаюся ў лідэра нефармальнай ініцыятывы «Рушаньне «Магілёўская лучнасьць». Валадар Цурпанаў апавядае:

«Апошнія год, два ці, можа, тры і болей тут усё расьцярушана. Ёсьць толькі так званыя функцыянэры, якія і рэпрэзэнтуюць нешта, што мы прызвычаіліся называць апазыцыяй. Таму выснова мая вось такая: «Таму няма ў нас апазыцыі ў Магілёве дзейнай і публічнай».

Паводле Валадара Цурпанава, стан апазыцыі ў Магілёве ня надта адрозьніваецца ад апазыцыйных асяродкаў у іншых гарадах Беларусі. Моладзь ня надта гатовая папаўняць апазыцыйныя шэрагі, таму што баіцца перасьледу, а вэтэраны апазыцыйнага руху пакрысе адыходзяць.

***Радыё “Свабода”***

# “МАГІЛЁЎХІМВАЛАКНО” НЕ ПРАДАЕЦЦА. ПАКУЛЬ ШТО

“Тут і цяпер” вырашыла пацікавіцца, што думаюць на гэтым прадпрыемстве наконт магчымай здзелкі аб продажы кампаніі расійскаму хімічнаму гіганту.

## На авансцэне “Сібур холдынг”

Напомнім, што Расія патрабуе ад Беларусі разлічыцца за “раствараль-нікавыя” схемы. 1,5 мільярдаў долараў, якія, па звестках неназванай крыніцы, хоча спагнаць Расія ў свой бюджэт, прыйдзецца, хутчэй за ўсё, аддаваць. І без продажу маёмасці тут не абысціся.

Ананімная крыніца агенцтва “Прайм” у дзяржаўных органах Расіі адзначыла, што Расія мае намер спагнаць з Беларусі 1,5 мільярда долараў мытных пошлін у лік страт, якія панёс расійскі бюджэт у выніку рэалізацыі Беларуссю “растваральнікавых схем”. Ад таго, ці заплаціць Беларусь, залежыць лёс будучых паставак нафты.

Як адзначыў у каментары Gazeta.ru эканаміст Антон Платаў, лішніх 1,5 мільярда долараў у Беларусі няма. І, паводле яго меркавання, Беларусі давядзецца расплачвацца з Расіяй прамысловымі актывамі. У якасці найбольш верагоднага “тавару” Платаў назваў вядучае беларускае прадпрыемства “Магілёўхімвалакно”, якое ў найбліжэйшы час могуць прадаць расійскаму “Сібур холдынгу”.

“Вас дэзінфармавалі. Ні пра які продаж “Магілёўхімвалакна” “Сібуру” размова не ідзе”, — адзначыла крыніца “Тут і цяпер” на прадпрыемстве.

Разам з тым яна заявіла, што менеджары “Сібуру” працуюць на “Магілёўхімвалакне” ў рамках рэалізацыі інвестыцыйнага праекта. Які праект рэалізоўваецца на прадпрыемстве, крыніца не ўдакладніла.

Неабходна адзначыць, што яшчэ ў 2009 годзе “Сібур холдынг” і “Магілёўхімвалакно” праводзілі перамовы аб стварэнні сумеснай вытворчасці па выпуску тэрафталевай кіслаты. Кошт праекта ацэньваўся ў 213,5 мільёна долараў. Аб тым, ці быў рэалізаваны гэты праект, не паведамлялася.




Акрамя “Магілёўхімвалакна”, “Сібур” праяўляў цікавасць да іншых нафтахімічных актываў. У прыватнасці, кампанія называлася ў якасці магчымага пакупніка бабруйскай “Белшыны” і светлагорскага “Хімвалакна”.

Набыццё “Сібурам” “Магілёўхімвалакна” было б лагічным крокам з боку расійскай кампаніі: гэта дазволіла б “Сібуру” пашырыць сваю прысутнасць на расійскім рынку.

## За больш-менш прымальны кошт

Разам з тым продаж магілёўскага прадпрыемства не дапаможа беларускаму ўраду вырашыць пытанне са здабыццём 1,5 мільярда долараў. Так, акцыянерны капітал магілёўскай кампаніі складае 650,5 мільярда рублёў, што крыху больш за 76,5 мільёна долараў. Нават калі дапусціць, што рыначны кошт прадпрыемства дасягне 200-300 мільёнаў долараў, давядзецца прадаць яшчэ некалькі прадпрыемстваў.

Зыходзячы з чаканняў беларускага боку, найбольшыя надзеі ўскладваюцца на продаж дзяржаўнага пакета кампаніі МТС за больш-менш прымальны кошт. 2 лістапада адбудзецца прэзентацыя, падчас якой дзяржава зноў прапануе інвестарам свой пакет акцый за 1 млрд долараў. Відавочна, што гэта завышаны кошт. І не выключана, што дзяржаве прыйдзецца саступіць $200—300 мільёнаў, каб атрымаць хоць якія грошы за названае прадпрыемства.

Для расійскага боку найбольш прывабнымі выглядаюць найперш вытворчыя актывы. Гэта, канечне, “Беларуськалій” (на яго продаж дзяржава пойдзе ў самым крайнім выпадку), “БелАЗ”, “Гродна Азот” і іншыя. Аднак верагоднасць дасягнення дамовы па гэтых актывах нашмат меншая, чым у выпадку з тымі прадпрыемствамі, якія маюць патэнцыяльнага пакупніка. Таму, калі і казаць аб продажы “фамільнага срэбра” расійскім інвестарам, то прыглядацца варта менавіта да гэтых кампаній.

***Міхал ВЯЗЫНСКІ, “Тут і цяпер”***

# ЭКСПЕРТ: К ВЕСНЕ КУРС БУДЕТ 12 ТЫСЯЧ РУБЛЕЙ ЗА ДОЛЛАР

***Заместитель председателя Белорусской научно-промышленной ассоциации Георгий Гриц считает, что до конца этого года курс доллара не преодолеет отметку 9 тыс. рублей, однако уже в первых месяцах 2013 взлетит до 12 тыс. рублей за доллар.***

В последние месяцы в Беларуси резко упали рентабельность и чистая прибыль предприятий, задолженность по кредитам и займам в разы обогнала рост экономики, в сентябре сложилось отрицательное сальдо внешних платежей в размере 505 млн. долларов. Дополнительные проблемы возникли на рынке нефти и нефтепродуктов.

О том, как дальше будет развиваться влияние всех этих факторов на экономику Беларуси и ситуацию в стране в целом "Обозревателю" рассказал заместитель председателя Белорусской научно-промышленной ассоциации Георгий Гриц.

"С формальной точки зрения в Таможенном кодексе Союзного государства действительно была лазейка, которая позволяла продавать растворители. Другое дело, что этот вопрос россияне подняли еще весной на союзном Совмине. Уже тогда была высказана озабоченность по этому поводу на официальном уровне, и продолжение экспорта растворителей белорусской стороной уже выглядело провокацией по отношению к российской стороне. Если бы мы тогда прекратили поставки, думаю, конфликт был бы локализован. Поэтому доля правды есть и с той, и с этой стороны", - считает Гриц.

"Другое дело, что можно подискутировать, кто должен нести ответственность за возврат в бюджет этих денег, ведь растворителями занимались не государственные предприятия и даже не предприятия, которые входят в концерн «Белнефтехим». Этим занимались частники, так, может, имеет смысл обсуждать возврат задолженности с первоначальными субъектами хозяйствования, которые и получили выгоду. 1,5 млрд. долларов по нынешним временам – это действительно серьезная сумма даже для России и уж тем более для Беларуси. Но формально мы эту сумму погасить можем, к дефолту национальной экономики это не приведет. Что касается факторов, которые сегодня сильно влияют на национальную экономику и стабильность белорусского рубля, то я выделил бы другие основные составляющие. Во-первых, 1,5 млрд. долларов, которые от Беларуси требуют вернуть, являются уже отголоском, больше повлияло прекращение экспорта растворителей, которое позволяло формировать положительное сальдо национальной экономики. Мы видим, что уже в третьем квартале сальдо стало отрицательным. Вторым фактором, на мой взгляд, является повышение себестоимости белорусских товаров из-за кредитной эмиссии, которую стал проводить Национальный банк. Третий фактор – неблагоприятная конъюнктура в связи с вступлением России в ВТО. Многие директора белорусских предприятий уже почувствовали, что условия работы значительно ужесточились. Эта тенденция имеет долгосрочный характер – в следующем году ситуация ужесточится еще сильнее, год спустя – еще… О том, даст МВФ кредит или нет, окончательно говорить пока рано. Знаковой является невыдача третьего транша кредита ЕврАзЭС, на который мы уже рассчитывали. Оговоренные сроки прошли, а денег нет", - рассказал эксперт.

В связи с этим перспективы нас ждут далеко не радужные.

"Исходя из совокупности перечисленных выше факторов, я уверен, что до конца этого года курс доллара не преодолеет отметку 9 тыс. рублей. Это вопрос принципа для руководства страны и Нацбанка. В первом квартале следующего года инфляционные и девальвационные ожидания у белорусского бизнеса очень высокие. Думаю, к весне национальная




валюта ослабится до 12 тыс. рублей за доллар. С какой стати белорусский рубль будет стабильным", - уверен Георгий Гриц .

"Стоит заметить, что у государства есть возможность удержать в этот период курс и на уровне 9 тыс. рублей, но в этом случае потребуется привлечение каких-то внешних источников, которые прекратят девальвационную составляющую. Что это за источники? Можно, например, напрочь прекратить инвестиционный импорт – это возможно сделать административно, так как 70 процентов предприятий, формирующих ВВП, у нас государственные. Помимо этого, рублю можно административно запретить импорт или административно не увеличивать заработную плату путем некомпенсации роста стоимости услуг ЖКХ, проезда и других коммунальных и социальных платежей. У основной части населения в итоге просто физически не будет денег на покупку импортных товаров и валюты. Эти методы, мягко говоря, неразумные и могут иметь только краткосрочный эффект", - добавил эксперт.

***"Белорусский партизан"***

## ДТП в Белыничах

25 октября в Белыничском районе в 18-25 58-летний житель деревни Запокулье, управляя автомобилем «Ауди» по улице Дайнеко, совершил наезд на переходившую проезжую часть по нерегулируемому пешеходному переходу 33-летнюю жительницу городского поселка Белыничи, причинив ей перелом плеча.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## НА ИСТОРИЧЕСКИХ ТРАДИЦИЯХ В ЗАВТРА



В Могилеве в здании «Технопарка» презентована книга «Магдебургское право на Могилевщине: вчера, сегодня, завтра». «Самая главная ценность этого издания в том, что мы попробовали под одной обложкой собрать анализ исторических традиций самоуправления в разных городах и местечках Могилевской области», — заявил «Вечернему Могилеву» один из авторов книги и ее составителей, кандидат исторических наук Игорь ПУШКИН.

В книге собраны материалы о Магдебургском праве, которое на территории Могилевской области, помимо Могилева, имел и ряд других городов, а также информация о тех населенных пунктах, где были традиции местного самоуправления. Игорь Пушкин сказал, что одна из целей проведенной работы — «сделать, чтобы в том же самом Кричеве, Белыничах, Шклове или Мстиславле люди привыкли что-то делать сами или стали более активно участвовать в общественной жизни, опираясь на историческую память».

По словам Пушкина, собранный материал имеет не только историческое, но и практическое значение, поскольку исторические традиции можно использовать для воспитания духа патриотизма у местных жителей, создания брендов. Он сообщил, что книга, несмотря на то что вышла небольшим тиражом — всего 80 экземпляров, будет направлена в районные библиотеки области и главам районов.

Историк отметил, что подобных обобщающих изданий еще не было в других областях Беларуси. Кроме того, работа по дальнейшему сбору материалов будет продолжена уже в районах. «Мы считаем, что в каждом районе должен быть свой историк, краевед и что в каждом районе должны преподаваться, например, «Могилевоведение», «Белыничиведение» и так далее. И это должно стать основой, на которой бы мы рассматривали деятельность сегодняшних органов самоуправления и которая стала бы логическим продолжением славной истории. Тогда у нас есть будущее», — уверен Игорь Пушкин.

Участие в презентации книги приняли представители Белыничского района. В сборник “Магдебурское право на Могилёвщине: вчера, сегодня, завтра” вошёл также и увлекательный материал известного белыничского писателя и краеведа Михася Карпеченки “Белыничи магдебургские”.

***Владимир ЛАПЦЕВИЧ***

## Цифры и факты

Средняя зарплата в сентябре: 4 096 741 рубль

Минимальная заработная плата: 1 104 640 рублей

Тарифная ставка первого разряда: 225 000 рублей

Бюджет прожиточного минимума: 843 870 рублей

Минимальный потребительский бюджет для семьи из четырех человек: 1 332 100 рублей

Базовая величина: 100 000 рублей

## У МАГІЛЁВЕ ЗА ПАЛІТЫЧНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ ЗВОЛЬНІЛІ СЛЕСАРА

30 кастрычніка суд Ленінскага раёна Магілёва адмовіў актывісту Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалаю Залознаму ў аднаўленні на працы.

Суддзя Валянціна Лапаціна палічыла, што ўсе дысцыплінарныя спагнанні ў дачыненні да Мікалая Залознага ў апошнія месяцы яго працы правамерныя, як і само яго звальненне.

Праваабаронца Барыс Бухель адзначае, што ў панядзелак будзе гатовы пратакол судовага пасяджэння, роўна як і рашэнне суда.

«Пасля таго, як мы яшчэ раз азнаёмімся з гэтымі дакументамі, мы прымем рашэнне абскардзіць пастанову раённага суда ў абласным судзе ці не рабіць гэта», - сказаў Барыс Бухель у інтэрв'ю сайту праваабарончага цэнтра «Вясна».

Сам Мікалай Залозны кажа, што там дзе закон сутыкаецца з палітыкай, апошняя заўсёды перамагае.

«Маё звальненне палітычна матываванае. Суддзя не аднавіла мяне на працы, так як, не выключаю таго, што і ёй шапнулі на вушка, якое рашэнне неабходна прыняць у дачыненні да мяне», - кажа актывіст БСДП.

Нагадаем, што Мікалай Залозны працаваў слесарам у адным з інтэрнатаў Магілёва. Пасля таго, як падчас выбарчай кампаніі ён увайшоў у склад ініцыятыўнай групы кандыдата ў дэпутаты ад БСДП (Грамады) Леаніда Падбярэцкага ў яго пачаліся непрыемнасці на працы.

Яго начальнік Павел Шышоў прымусіў яго пісаць тлумачальную запіску з нагоды таго ў якой апазіцыйнай партыі ён знаходзіцца.

Пасля гэтага Мікалая Залознага некалькі разоў дэпрэміравалі. На яго амаль штодня пісалі дакладныя. У выніку ў яго знялі ўсе даплаты і перавялі працаваць на іншы аб'ект. Падпісаць новы кантракт, які меў значна горшыя ўмовы працы, Залозны адмовіўся, пасля чаго ён быў звольнены.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 02.11. 2012 г. у 09-00.